№ 2. Аўторак 13 Сьнежня 1927 г. м. Вільня. Год I.

# БЕЛАРУСКІ РАДНЫ

Пярыядычная часопісь па самаўрадавым справам нашага краю.

| РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: WILNO, Zawalna 6 — 4. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: За 3 месяцы . . . . 2 зл. 1 нумар . . . . . . 50 гр. | АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ. |
|---|---|---|

## Першае неабходнае заданьне.

Прыймаючы пад увагу, што самаўрадавая праца павінна і можа вясьціся толькі ў тых рамках, якія былі накрэсьляны першым Зьездам Радных — Беларусаў у Вільні, гэта значыць — **выключна на асьветна-гаспадарчым грунце,** — Рэдакцыя „Беларускага Раднага“ з першых-жа крокаў прыступае да рэалізацыі гэтага галоўнага заданьня нашых гмінных Самаўрадаў. З гэтаю мэтаю мы адчыняем на старонках нашага журналу спэцыяльны **сельска - гаспадарчы аддзел,** у якім і будзем старацца па меры магчымасьці правадзіць у жыцьцё тыя рэзалюцыі, якія аднагалосна былі прыняты на Першым Зьездзе Беларускіх — Радных у Вільні.

Трэба перад усім падняць эканамічны стан нашага Народу, а гэта будзе магчыма толькі тагды, калі будуць заснованы моцныя гаспадарчыя арганізацыі. Галоўную ўвагу неабходна зьвярнуць на пашырэньне спажывецкіх і вытворчых арганізацыяў; утварэньне пунктаў пазычкі, земляробскіх машынаў, штучных гнаёў і ўсялякага гаспадарчага прыладзьдзя для шырокага карыстаньня сялянамі; на арганізаваньне пазычковых касаў; сялянскіх банкаў; таварыстваў узаемнага крэдыту; закладаньне каапэратыўных малачарняў і сыраварань; павялічэньне лічбы аграномаў і інструктараў для шырокай і даступнай запамогі сялянству і г. д.

Трэба падымаць эканамічную культуру народу. Няхай кожны Радны працуе і ведае, што яго праца не прападзе дарма, што і ён улажыў сваю цэгліну ў вялізны будынак культурна-эканамічнага багацьця Народу. Толькі тагды, калі мы ўсе возьмемся за працу, калі ў кожным кутку будуць чытацца лекцыі і закладацца гаспадарчыя суполкі і хаўрусы, — толькі тагды мы здолеем памагчы ў змаганьні з народнаю беднасьцю і цемнатою. Прыбліжаць сьвятлейшыя дні для нашага Народу павінен кожны з нас.

Першае і галоўнае заданьне, якое стаіць перад намі — **гэта вялікая культура і сіла эканамічная.** Супольная грамадзкая праца дзеля супольнай карысьці,—вось школа, якая навучыць народ, як стварыць сабе лепшае жыцьцё, як вызваліцца з адвечнае бяды і **збудаваць моцны эканамічны фундамэнт.**

Народ, які здалее зрабіць гэта, дачакаецца сьветлай будучыні. На гэтакай дарозе павінны ісьці і мы, Беларусы, памятуючы заўсёды, **што сіла палітычная залежыць ад эканамічнага фундамэнту.** Гэтыя дзьве сілы ідуць паруч.

І вось, распачынаючы гэту працу, мы не можам таксама не зазначыць аднаго вельмі паважнага момэнту. Да гэтага часу кадры беларускае інтэлігэнцыі былі вельмі слабыя, дый і тыя распыляліся ў палітычнай барацьбе і зусім зразумела, што ў такім выпадку на галоўную працу — пашырэньне гаспадарчае культуры і палепшаньне дабрабыту нашых сялян была зьвернута найменьшая ўвага.

Цяпер пачынаецца ў беларускім руху, можна сказаць, новая эра, гэта—эра творчае працы. У хуткім часе зьвернецца на Бацькаўшчыну з Чэхаславацыі каля 100 беларусаў з вышэйшаю асьветаю, вялікім інтэлектуальным багажом у усіх галінах навукі.

Толькі трэба, каб гэта вялікая сіла пайшла па шляху творчае пазытыўнае працы.

Але перад усім трэба, каб гэтая інтэлігэнцыя, што ўжо варочаецца і будзе зараз варочацца на Бацькаўшчыну, знайшла тут адпаведныя варункі, забяспечываючыя яе матэрыяльнае становішча. Для гэтага ёсьць адзін толькі шлях, гэта — **стварэньне моцных гаспадарчых арганізацыяў**, дзе гэтыя сілы маглі-б працаваць з чыстым суменьнем і сьвядомасьцю карысьці для народу сваей працы, **замест дыффэрэнцыацыі, замест разьбіцьця гэтых сіл па розныя палітычныя ўгрупаваньня.** У цяжкую гадзіну нашага гаспадарчага становішча мы заклікаем усе творчыя сілы беларускага народу, асабліва Радных, як выбранцаў Народа, маючых уплыў на лёс нашага краю, злучыцца на грунце апалітычным для творчае працы на карысьць нашага Народу, для яго лепшай будучыні.

Мы пэўны, што гэта думка знойдзе шырокае падтрыманьне сярод усяго Беларускага Народу і беларускай інтэлігэнцыі.

Гэта думка, гэта мэта мусіць скаваць моцным цэмэнтам усе творчыя сілы нашага Народу на чале з яго самаўрадавым прадстаўніцтвам, бо толькі Гмінныя Самаўрады могуць стварыць матэрыяльную базу для культурнага разьвіцьця сваей Бацькаўшчыны!

---

## Самаурады, як шлях да „адраджэньня сялянства“.

Цэлымі вякамі наша сялянства жыло, як і жыве дагэтуль, амаль на першабытным жыцьцём, не зьмяняючы амаль ня ў чым ані ўнутранага ладу і складу сваей душы, ані формаў ды спосабаў ей прымітыўнай грамадзкасьці“, ані нават практыкаў і прыладаў сваей адвечна-аднолькавай гаспадарчай працы!...

Увесь адвечны, просты „кругаварот“ вузка абмяжаванага сялянскага жыцьця заўсёды азначаўся, як ведама, двума ўладнымі і няпераможнымі чыньнікамі: ўсемагутнай прыродай і паўнаўладным начальствам... Думкі аб тым, што можна ня толькі пасьпешна змагацца з прыродай, але нават і панаваць над ей шляхам навуковай веды і тэхнікі, а тым больш думкі аб тым, што можна быць сваім уласным начальствам — вольным і адказным тварцом свайго ўласнага жыцьця ў розных яго галінах, — у нашага сялянства да апошніх часоў не магло нават спарадзіцца!... Усе гэта вырабіла зусім асаблівы, пасыўны, а праўду сказаўшы і лянівы тып беларуса-хлебароба, ў вельмі рэдкіх выпадках маючага імкненьні і суадказную ім сілу волі, каб дабіцца сабе уласнымі высілкамі лепшай долі на лепшай ніве... Так жылі нашы дзяды, так жывём мы, так будуць жыць нашы ўнукі... Такую сумліўную „народную мудрасьць“ вырабіла ў нашага сялянства гэтае векавое бязсільле яго паасобных адзінак і бязпраўе грамадзянства ў даваенных варунках манархічна-паліцэйскага гаспадарства.

Наша сялянства умысна трымалася ў цемнаце і беднасьці і бязпраўі на сваіх вузкіх ды худых „шнурох“... Сялянства плаціла падаткі, давала рэкрутаў, спаўняла розныя іншыя „натуральныя павіннасьці“. Але сялянін, называны ў „маніфэстах“—„карміцельцам усей дзяржавы“, заўсёды аставаўся „мужыком, падданым“, і ніколі не разглядаўся дзяржавай, як яе вольны грамадзянін.

Дзяржава давала нашаму сялянству сякую-такую пачатковую „школьную навуку“, але „навука“ гэтая ў чужой мове цалком „спаралася“ з галоваў астаўшагася на вёсцы насяленьня, не пакідаючы ў яго жыцьці літэральна ніякага сьледу...

Месты і мястэчкі нашага краю былі, як і ёсьць да гэтуль яшчэ, абсалютна чужыя, амаль не варожыя сялянскаму насяленьню нашай вёскі... Калі якая сувязь паміж местам і вёскай істнавала, дый істнуе цяпер, дык амаль што ня выключна адміністрацыйна паліцэйская. Сяляніну з беларускай вёскі ў чужым няведамым, варожа выглядаючым, а вельмі часта і дзеючым для яго месьце чуецца запраўды-ж, як сярод пустыні паміж ваўкоў... Гаспадарчая сувязь вясковага сяляніна з местам і нават мястэчкам нашага краю так сама страшэнна некарысная для вёскі. Хто-ж ня ведае, сколькі крыўды робіць нясумленная, няўрэгуляваная добрым законам, часта рабуючая без усялякага нагляду і кантролю, мястовая ці мястэчковая жыдоўская ці хрысьціянская крама вясковаму набыўцу патрэбных яму тавараў, асабліва пасьля таго, як яго „недаверчывасьць“ ці „падазронасьць“ дарэшты „разчыняецца“ у чароўнай гарэлцы..

Але вясковы хлебароб, маючы і на вёсцы над сабой дагэтуль шмат сваіх „клясавых канкурэнтаў“—паноў, ня мае тым больш у месьце ніякага заступніка. Бо-ж нават свой брат—сялянін, які пераехаў на жыцьцё з вёскі ў места, робіцца, як кажуць, „гаспадарчым супраціўнікам“ сяляніна-хлебароба. Бо-ж мястовы жыхар заінтэрэсаваны заўсёды ў тым, каб даражэй браць з вёскі за вырабы мястовай прамысловасьці і чым танней купляць у вёсцы прадукты яе сельскай гаспадаркі..

А калі параўнаваць арганізаванасьць сучаснага места, дзе скакцэтраваны усе запасы, усе установы і культурныя прылады краю, з беднасьцяй, неарганізаваннасьцю, нашай вёскі, дык стане ясным, які непараможны стасунак ува усіх галінах жыцьця ствараецца ў нас з боку места на страшэнную некарысьць вёскі. І дагэтуль вёска ўсё руйнавалася пад эксплёатуючым уплы

вам места!.. А калі мы успомнім, што каля трох чацьвертых ўсяго насяленьня Польшчы, а у нашым краі — пэўне-ж яшчэ больш, складае сялянскае насяленьне вёскі, дык тады мы уцямім цалком усю небясьпеку ужо ня толькі для сялянства, але і для усяе дзяржавы ад гэткага занядбаньня ды руйнаваньня вёскі местам...

Дагэтуль у Польшчы не разумелі гэтай небясьпекі. І усе дагэтуль існаваўшыя урады зусім ня цікавіліся тым, каб неяк падняць гаспадарчае, грамадзка-палітычнае і духоўнае жыцьцё вёскі, а ужо аб нашай беларускай вёсцы дык і няма чаго казаць!.. Страшэнвае зганьбленьне вёскі у Польшчы асабліва за ўрадам Грабскага, выклікаўшага вострыя фінансава-гаспадарчы крызыс, урэшце адчыніла вочы польскім палітыкам, і новы польскі ўрад высунуў, як галоўную падставу сваей дзяржаўнай гаспадарчай палітыкі, сельска-гаспадарчую працу вёскі, як працу вялізарнай часткі насяленьня, як галоўную падставу дабрабыту усяго краю.

Гэты факт можна лічыць пераломным для усяго жыцьця і разьвіцьця нова-паўстаўшай Польшчы, а асабліва важным для нашага краю.

Але трэба адразу сказаць, што гэты высўнуты новым урадам лёзунг гаспадарчага адраджэньня вёскі абавязвае кіруючыя дзяржаўныя колы да апрацаваньня пляновай паступовай, падрабязнай праграмы, — дый ня толькі гаспадарчай, але і грамадска-палітычнай і культурна-нацыянальнай... — Бо-ж прызнана ужо беспрэчна паўсюды на сьвеце, — у выніку цяжкага, каштоўнага, ахвярнага дасьледу — што няма гаспадарчага адраджэньня народу, немагчыма падняцьце роўні і яго эканамічнага жыцьня, падняцьця вартасьці, прадукцыйнасьці яго працы без папярэдняга ці паралельнага пашырэньня яго грамадзка-палітычных сьведамасьці, самастойнасьці, без паглыбленьня яго навуковай веды праз адзіны магчымы шлях нацыянальнай школы!

Калі новая ўлада ў Польшчы запраўды, як можна ужо думаць, мае паважны намер паставіць тую рашучую стаўку на працу, якая запраўды-ж зьявілася-б паваротным пунктам у разьвіцьці дзяржавы, дык трэба, каб улада польская запраўды-ж дала сялянству як свайму, так і беларускаму усе рэальныя магчымасьці апраўдаць гэту стаўку. А гэта значыць, што польская ўлада павінна стварыць для сялянства памысныя варункі для яго гаспадарчай працы, для разьвіцьця ўсіх яго сілаў, для дабрабыту і велічы дзяржавы!...

---

Першы зьезд радных — беларусаў нашага краю добра зразумеў усё гэта і, падзякаваўшы новай польскай уладзе за яе новы лёзунг даверы і да нашага сялянства, у сваіх добра прадуманных рэзалюцыях, з свайго боку, — ад імя беларускага сялянства, зьвярнуўся да улады з праграмай неабходных рэформаў, здзейсьненьне якіх зьяўляецца канешным варункам магчымасьці для беларускага сялянства выканаць вымаганую дзяржавай працу, да якой заклікае яго улада.

Галоўныя мамэнты гэтай праграмы беларускага сялянства — варункі яго адраджэньня і найкарысьнейшай працы для краю—ведамы кожнаму... Гэта „земля—школа — воля"! Усё гэта прынцыпова дэклявана ужо нам Польскай Рэспублікай. Усё гэта павінна быць і зрэалізавана ў жыцьці. А новыя самаўрадавыя установы у нашым краі, у якіх амаль што не паўсюды прэдстаўнікі беларускага вясковага люду маюць большасьць, даюць нам ужо шырокія магчымасьці уласнай, вольнай, самастойнай працай будаваць сваё гаспадарчае і усякае іншае жыцьцё.

Наша часопісь будзе падрабязна высьветляць усе тыя рэальныя, практычныя шляхі і спосабы, якімі наша працоўная вёска можа праз свае самаўрадавыя установы паляпшаць сваё жыцьцё. Намецім тутака напачатак каротка галоўныя задачы на гэтым даўгім шляху працы, якія будзем далей падрабязна высьветляць ў нашай часопісі.

На чале ўсіх стаіць галоўная, найшырэй ахопліваючая усе падставы вясковага жыцьця, — задача аздараўленьня гаспадарчага жыцьця вёскі і стварэньне больш нармальнага стасунку вёскі да места у нашым краі. А гэта вялізарнай важнасьці задача можа быць вырашана толькі праз самаўрадавыя арганізацыі вёскі і места шляхам іх паразуменьня і згоднай супрацы.

На шляху вырашэньня гэтай найважнейшай задачы, вясковыя самаўрады павінны увайсьці у найбліжэйшую сувязь з каапэрацыяй, выкарыстаць усе яе жывыя сілы і магчымасьці дзеля нармаваньня цэнаў на вёсцы і у месьце.

Справа гэта у зьвязку з узрастаючай дарагоўляй робіцца ўсе больш палючай і неадхільнай.

Тутака самаўрады у супрацы з каапэрацыяй могуць шмат дабра зрабіць для вясковага насяленьня, абдзіранага бязбожна ўсімі, ў каго ёсьць толькі да гэтага ахвота.

Вясковыя самаўрады ня толькі маюць права дамагацца ад улады у цэнтры, каб закон аб зямельнай рэформе быў выканаты, але маюць усе магчымасьці дапільнаваць на мейсцы, каб закон спаўняўся дакладна, і Самаўрады, прынамсь сялянскія у іх групы, павінны сачыць за тым, каб пры парцэляцыі атрымлівалі зямлю бяззямельнікі, малазямельнікі і фальварачныя работнікі.

Сялянскія самаўрады маюць і права і абавязак прымаць усе меры дзеля падняцьця сельска-гаспадарчай культуры сваіх абшараў, закладываць паказальныя, узоровыя га-

спадаркі, дасьледчыя паля ды станцыі, склады машынаў, насеньняў, паляпшаць пароду рожнай хатняй жывёлы і г. д.

Самаўрады могуць аблягчаць для сялян усялякага роду і мэтаў крэдыт.

Самаўрады павінны заняцца найважнейшай справай захаваньня здароўя вясковага насяленьня, якое стаіць на такой страшэнна нізкай ступені у нас.

Самаўрады маюць права закладываць школы рожнага тыпу, бібліятэкі, чытэльні.

Самаўрады маюць шырокія правы і абавязкі ў справах грамадзкай апекі над нядольнымі да працы дый над нямаючымі працы.

А перадусім самаўрады маюць рашучы голас пры раскладцы рожных гмінных падаткаў і павіннасьцяў, могуць сачыць, каб гэтыя цяжары справядліва дзяліліся паміж сябрау самаўрадавай адзінкі, каб з бяднейшых бралі менш, а з багатых больш, бяззямельнікаў ды безработных звальнялі цалком.

Самаўрады маюць весьці гаспадарку на сваіх маемасьцях, як праўныя адзінкі.

Мы тутака ня пералічылі, зразумела, усіх галінаў працы ды дзейнасьці самаўрадаў, указаўшы толькі агульна найбольш важныя.

Дык, канчаючы, падчыркнем яшчэ раз, што шляхам працы у самаўрадах — пляновай і арганізаванай — магутнымі супольнымі сіламі наша сялянства запраўды выйдзе з „зачаруванага кола“ на шырокую дарогу гістарычнага жыцьця!...

Шляхам самаўрадаў сялянства перастане быць адрэзаным ад культурна-грамадзкага жыцьця Дзяржавы.

Шляхам самастойнасьці і самадзейнасьці у самаўрадах сялянства на уласным дасьледзе уласнай працаю — у пяршыню, можа, пачуе, што яно пан і тварэц свайго уласнага жыцьця, дабрабыту і шчасьця!

А гэта значыць, што праз самаўрады наш селянін, ведаўшы дагэтуль толькі ня долю ды няволю, дый вінаваціўшы у гэтым усіх, толькі не сябе, адгэтуль ужо будзе ведаць, што доля яго залежыць у значнай меры і ад яго самага, ад яго уласнай працы .. А гэта мо найважнейшая здабыча на шляху яго далейшага палітычнага разьвіцьця, для якогя самаўрады, як ведама, зьяўляюцца найлепшаю школаю.

# Выбары у Сойм і Сэнат.

У „Dzienn. Ustaw Rzplitej“ № 107 з дня 5 сьнежня г. г. апублікавана наступнае распараджэньне п. Прэзыдэнта Рэспублікі з дня 8 сьнежня 1927 г., аб выбарах у Сойм і Сэнат.

„На аснове арт. 13 ардынацыі выбарчай у Сойм, зьмешчанай у законе з дн. 28 ліпня 1922 г. (Dz. U. Rz. P. № 66 poz. 590), а także арт. 9 ардынацыі выборчай у Сэнат, зьмешчанай у законе з дн. 28 ліпня 1922 г. (Dz. U. Rz. P. № 66 poz. 591), загадваю выбары у Сойм і Сэнат Рэспублікі. Галасаваньне у Сойм адбудзецца 4 сакавіка 1928 г., а у Сэнат 11 сакавіка 1928 г. Выборныя чыннасьці маюць быць выканаўы у тэрміны, абазначаныя у далучаным да гэтага распараджэньня выбарчым календары.

(—) Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай
*І. Масьціцкі.*

(—) Старшыня Рады Міністраў
*І. Пілсудскі.*

(—) Міністар Юстыцыі
*Мэйштовіч.*“

У тым-жа N „Dz. Urz.“ паданы наступны выбарны календар.

## ВЫБАРЧЫ КАЛЕНДАР.

13 сьнежня б. г. — 8 найбольшых па ліку клюбаў пасольскіх прадставіць Гэнэральнаму выбарчаму камісару 8 сябраў Дзяржаўнай выбарнай камісыі і столькі-ж заступнікаў іх.

15 сьежня б. г. Гэнэральны выбарны камісар, на прапазыку прэзэса адноснага Апэляцыйнага Суду вызначае прэзэсаў акружных выбарчых камісыяў. Ваявода, Камісар Урацу — зызначае па 1 сябру Акружных выбарчых камісыяў.

Адміністрацыйныя Улады І інстанцыі аб'яўляюць ува ўсіх гмінах аб іх падзеле на выбарчыя абводы, аб выбарчых памешканьнях і памешканьні выбарчай абвадовай камісыі. Адначасна тая самая Улада паведамляе аб гэтым прэзэса Акружнай выбарчай камісыі і Галоўны Статыстычны Урад. Гэнэральны выбарчы Камісар аб'яўляе у „Monitorze Polskim“ аб складзе асобаў і урадавым памешканьні Дзяржаўнай выбарчай камісыі, а також аб мейсцы, часе, спосабе і апошнім тэрміну прад'яўленьня гасударственных сьпіскаў кандыдатаў.

17 сьнежня. Гэнэральны Выбарчы Камісар аб'яўляе у Ваяводзкім „Dzienniku Urzędowym“ аб вызначаных прэзэсах акружных выбарчых камісыяў і іх заступніках; Ваявода, Камісар Ураду — аб'яўляе аб вызначаных сябрах Акружных выбарчых камісыяў.

Гарадзкія Рады, сабраньні начальнікаў гмінаў выбіраюць сябраў Акружнай выбарчай Камісыі.

19 сьнежня. Прэзэс Акружнай Выбарчай Камісыі аб'яўляе асабовы склад камісыі у Ваяводзкім „Dzienniku Urzędowym". Акружная Выбарчая Камісыя аб'яўляе ўва ўсіх гмінах аб дню выбараў, гадзінах галасаваньня, ліку паслоў, якія маюць быць выбраны на Акрузе і часе, спосабе і апошнім тэрміну прадстаўленьня кандыдатаў і заяваў аб далучэньні акружнага сьпіску да сьпіску гасударственнага, а такжа аб асабовым складзе і памешканьні выбарчага Ураду.

20 сьнежня Валасная Рада, альба сабраньне солтысаў, альба Камісар Ураду, альба паветовы выдзял вызначае 3 сябраў абводовай выбарчай Камісыі і столькі жа іх заступнікаў.

25 сьнежня. Начальнікі гмінаў (прэзыдэнты, бурмістры, войты, заведующыя даміціальнымі абшарамі) укладаюць для кожнай мейсцовасьці сьпісак выбаршчыкаў у 3-х экзэмплярах.

Прэзэс Акружнай Выбарчй Камісыі па ведамляе начальніка гміны аб складзе адносных абводавых выбарчых камісыяў і падае аб гэтым да агульнага ведама.

27 сьнежня. Начальнік гміны перасылае 3 экзэмпляры сьпіскаў выбаршчыкаў прэзэсу Абводовай Выбарчай Камісыі.

1 студня 1928 г. Абвадовая Выбарчая Камісыя перасылае 1 экзэмпляр сьпіску выбаршчыкаў Акружнай Выбарчай Камісыі.

2 студня 1928 г. Абводовая выбарчая Камісыя выстаўляе сьпіскі выбаршчыкаў для публічнага перагляду.

15 студня. Апошні дзень выстаўленьня сьпіскаў выбаршчыкаў для публічнага перагляду.

16 студня. Апошні тэрмін падачы да Абвадовай Выбарчай Камісыі рэклямацыяў проці непамешчаньня у сьпіску, альба памешчаньня кагосьці, ня маючага на гэта права.

22 студня. Апошні дзень падачы аб'яьсненьняў проці рэклямацыяў аб выкрасьленні са сьпіскаў.

24 студня. Прадстаўленьне гасударственных сьпіскаў кандыдатаў.

27 студня. Абвадовыя выбарчыя камісыі перасылаюць акружнай выбарчай камісыі экзэмпляры сьпіску выбаршчыкаў.

30 студня. Абвадовыя выбарчыя камісыі прысылаюць аб'ясьненьні проці выкрэсьленьня выбаршчыкаў са сьпіскаў і перасылаюць іх дадаткова да акружнай выбарчай камісыі.

1 лютага. Кандыдаты з гасударственнага сьпіску складаюць прэзэсу Дзяржаўнай выбарчай камісыі заяву аб згодзе на прыняцьце мандату.

3 лютвга. Гэнэральная выбарчая камісыя аб'яўляе у „Monitorze Polskim" — гасударственныя сьпіскі кандыдатаў; прадстаўленьне акружных сьпіскаў кандыдатаў.

5 лютага. Акружныя выбарчыя камісыі перасылаюць абвадовым выбарчым камісыям 2 экзэмпляры аканчальна зацьверджанага сьпіску выбаршчыкаў, адначасна з гэтым — 3 экзэмпляры гэтых-жа сьпіскаў перасылаюць да начальнікаў гмінаў.

9 лютага. Прэзэсы абвадовых выбарчых камісыгў выстаўляюць аканчальна зацьверджаны сьпісак выбаршчыкаў для публічнага перагляду.

11 лютага. Кандыдаты з акружных сьпіскаў падаюць прэзэсам акружных выбарчых камісыяў заявы аб згодзе кандыдаваць.

Паўнамоцнікі акружнага сьпіску кандыдатаў падаюць прэзэсу акружнай выбарчай камісыі заявы аб далучэньні акружнага сьпіску да сьпіску гасударственнага.

13 лютага. Апошні дзень выстаўленьня для публічнага перагляду аканчальна зацьверджанага сьпіску выбаршчыкаў.

21 лютага. Акружныя выбарчыя камісыі дастаўляюць абвадовым выбарчым камісыям афішы з сьпіскамі кандыдатаў для расклейкі гэтых афішаў.

4 сакавіка галасаваньне у Сойм.

7 сакавіка паседжаньне акружнай выбарчай камісыі з мэтай устаноўленьня рэзультатаў.

11 сакавіка галасаваньне у Сэнат.

14 сакавіка паседжаньне акружнай выбарчай камісыі з мэтай ўстаноўленьня рэзультатаў выбараў у Сэнат.

---

**Радныя беларусы! Гуртуйцеся каля свайго камітэту па справам Самаурадау, памятуючы, што у еднаесьці сіла.**

# ГАСПАДАРЧЫ АДДЗЕЛ.

## КАМПОСТЫ.

Добры гаспадар стараецца мець з усяго карысьць, у яго нішта дарэмна не прападае. Ён з усяго, што на першы пагляд здаецца непатрэбным, зробіць гной. А гной, ды яшчэ добры, гэта ў гаспадарцы — золата. За граніцаю, апрача хлеўскага гною і штучных гнаёў (тамасаў, шлак, каініт і інш.) вельмі распаўсюджаны кампосты, і нават кажуць пра такога гаспадара, які мае добра заложаны кампост, што гэта культурны гаспадар. Дзеля таго, што не ўсе нашыя гаспадары ўмеюць добра рабіць кампосты, я і хацеў-бы на гэтым пытаньні трохі застанавіцца.

Пад кампостам, ці сьмешаным гноем трэба разумець гной, які робіцца з розных адпадкаў. У гаспадарцы ёсьць шмат розных адпадкаў, з якіх пасьля можна вырабіць добры гной і такім чынам значна павялічыць ураджаі.

Надаюцца да кампосту: кастрыца ад льну і канопляў, апілкі і стружкі, розныя сьметнякі з агародаў і з поля, балотныя купіны, розная гумнавая пацеруха, апаўшыя лісьця, цьвілая плесьнівая паша, кратовыя і старыя мураўіныя кучы, ачэскі шэрсьці, абрэзкі скуры, валасы, раговыя стружкі, косьці, выдзеленьня жывёлы і чалавека, пыл з дарогі, попел, торф, сьмецьцё з хат, балотная зямля, дзёрн, сажа, памыі і розныя адпадкі з фабрык і заводаў і іншае. Адным словам, амаль што ня ўсё лішняе ў гаспадарцы можа ісьці ў кампост, пад якім мы такім чынам разумеем мешаніну розных матэр'ялаў, як арганічных, гэтак і не арганічных, якія маюць у сабе больш ці менш карысныя пажывіны для жыцьця расьлін і мікраарганізмаў ці бактэрыяў.

З усіх гэтых матэр'ялаў трэба зрабіць такі гной, які-б добра прычыняўся да павялічваньня ўраджайнасьці; такі гной атрымаем толькі тагды, калі зложаныя матэр'ялы, з якіх складаўся кампост, няможна распазнаць, а ёсьць адна маса цёмнага колеру.

Ня ўсе матэр'ялы, ўзятыя да кампосту, лёгка гніюць і пры закладаньні кампостаў аб гэтым трэба заўсёды добра памятаваць. Лёгка гніюць, напрыклад, кроў, трава, цяжэй — кастрыца, апілкі, стружкі, косьці, валасы і г. д. Гэтыя ўсе матэр'ялы складаем у кучы, правідлова у парадку. Перад тым, як складаць у кучы, трэба некаторыя матэр'ялы прыгатаваць асабліва: так, напрыклад, косьці і усе вялікшыя рэчы трэба паразьбіваць на меньшыя. Такім чынам усе розныя матэр'ялы кладзём кучамі і пераcкладаем глінаю, пылам з дарог і г. д. і апрача таго дадаём яшчэ вапны. Вапна прысьпешвае гніцьце, ці расклад гэтых матэр'ялу, якое можна дадаваць у розных формах, як напрыклад паленае вапно, але толькі яно дарагое, мергель і г. д.

Мейсца для кучы выбіраецца недалёка адтуль, адкуль будуць брацца матэр'ялы для кучы, каб не насіць іх здалёка; далей абавязкова у цяні, каб праменьня сонца не падалі на кампост і моцна яго ў лётку высушвалі. Выбіраем такое мейсца, дзе зямля не прапушчае вады, значыць сухое, вышэйшае, каб пад кучу не падцякала вада. Цень можна зрабіць тым, што пасадзім каштановыя, або акатавыя дзеравы, якім ня шкодзіць жыжка, і якія даюць добрую цень.

Калі мейсца ўжо знайшлі, то зрэзваем з яго дзёрн і раўнуем, а пасьля ўжо кладзём кучу. Навокал кучы выкопваем раўчок, да якога мае сьцекаць жыжка. Кампоставыя кучы кладзём $^{3}/_{4}$ — $1\frac{1}{2}$ метры вышынёю. Вышэйшых класьці ня трэба, бо тагды працэс раскладу адбываецца неправідлова. Шырыня кампостнае кучы найлепш у 2 — 3 мэтры, каб можна было па ём ездзіць з канём. Даўжыня можа быць розная.

Кучу трэба класьці так, каб матэр'ялы, якія гніюць лёгка, былі праслоёны матэр'яламі, што гніюць цяжэй. Напрыклад робяць так: кладуць слой добрае агароднае зямлі так прыблізна у чэцьверць аршына, на яго кладуць вапна ці попелу вяршкі на два, пасьля слой торфу ў чэцьверць аршына, пасьля рознае сьмецьце, што ёсьць, пасьля ізноў зямлі, ізноў сьмецьця, ізноў попелу, ці гліны, ці торфу і г. д.

Пасьля укладкі кожнага слою, яго паліваць вадою, ці памыямі (а калі ёсьць жыжка ці выдзеленьня жывёлы ці чалавака, то імі) зверху кладуць слой зямлі ці торфу і ізноў паліваюць. Каб зладзіць такую кучу, трэба наўперад назьбіраць патрэбныя матэр'ялы. Каб матэр'ялы лепш перагнівалі, трэба, як мы ўжо казалі, прымешваць яшчэ сюды вапны. У кучу кладзём дзеля таго, каб пры першым раскладзе ні насталі страты карысных для расьлін пажывін, асабліва азотавых, і апрача таго такое складаньне дае магчымасьць раздзяленьня і пeрамешаньня кампосту. Зямля ўбірае ў сябе пажывіны, якія у іншым выпадку выляцялі-б ў паветра.

Пры залажэньні кампосту трэба прыймаць пад увагу і грунт, які хочам гнаіць кампостам. Для цяжкае зямлі найлепш рабіць кампост багаты на вапна, прычым зямлю, якою перакладаем матэр'ялы, бяром ня з вельмі цяжкага грунту. Кампост для лёгкае зямлі можа мець вапна менш і зямля бярэцца цяжэйшая — глінiстая. Але як у першым, так і другім выпадку мусіць даходзіць да кампосту даволі паветра.

Зьверху на кампосьце робім няглыбокую яму для жыжкі (ці вады), якою кампост паліваем.

Кампост дазрэвае у залежнасьці ад таго, з якіх матэр'ялаў ён складаецца. Кам-

пост з матэр'яла, што лёгка раскладаецца, ў працягу аднаго году, а з матэр'ялаў, што раскладаюцца цяжэй, у працягу 2—3 гадоў.

Кучы ад часу да часу паліваюць вадою, памыямі, ці жыжкаю. Паліваць праз кожных два — тры тыдні. Гэта робіцца дзеля таго, каб куча ня высыхала, бо ў сырой кучы матэр'ялы хутчэй згніюць. Калі кўча зьлежыцца, тады яе перакопваюць рыдлёўкамі для спульхненьня і мяшаньня. Перакопваюць раз у два — тры месяцы, прычым аднача-сова няшкодзіць дадаваць яшчэ і вапна. Бывае, што куча так зьлежыцца, што ня прапушчае вады. У такім выпадку, калі ня перакопваем, то робім дзіркі і тагды ўжо палівгем. Калі-ж хочам, каб кампост быў гатовы хутчэй, то ўлетку раскладаем яго у кучкі малыя.

Кампостам гнояцца палі, сенажаці, ці агароды. Можна кампост прыгатаваць спэцыяльна толькі для якой небудзь расьліны; у такім выпадку дадаем яшчэ да яго такія пажывіны, якія тая, ці іншая расьліна, каб лепш расла, патрэбуе больш. Дзеля гэтага дадаем тамасаў, шлак, каініт, попел, фосфорны квас і г. д.

На полі раскідаецца кампост ці аднача-сна з насеньнем, ці раскідаецца ужо тагды, калі поле зазялянее. Кампост ідзе пад озімыя з восені, а пад яравыя — з вясны.

Так сама кампост ужываюць: на сэнажацях, раскідаючы яго у сухую пору на сэнажаці вясною, ці у восень, як скосіцца атава. Расьце тагды больш травы і лепшае якасяці — пажыўнейшае. На 1 ha даём 200—500 q метрычных цэнтаў кампосту (1 q = 100 кілаграм) у залежнасьці ад таго, пад якую расьліну. Добра гнаіць кампостам так сама і агароды, дзе яго заорваюць вясною ў зямлю ці кладуць на 4 — 5 прыгаршняў пад кожны куст паверх зямлі. Добра яго класьці пад капусту, бручку, гарбузы, агуркі і розныя іншыя расьліны. Так сама і садовыя дзерева за кампост вельмі ўдзячны.

Каб у гаспадарцы быў заўсёды добры кампост, лепш дакладаць не адну, а некалькі кампостных куч.

На зіму кучы закрываюць бульбянікам, саломаю, лісьцем і г. д., каб куча ня перамёрзла.

У гаспадарках, дзе гною не дахват, а да такіх належыць большая часьць новых гаспадарак вясковых, кампост служыць добрым падспор'ем к навозу, значна кавалічваюны ўраджай. У некатарых выпадках расьліны на кампосьце растуць лепш, як на гнаі, бо ён хутчэй у ч ы н к у е.

Наагул трэба зазначыць, што кампост — рэч надта карысная, якая значна можа павялічыць ураджаі, патрэбна толькі ахвоты да закладаньня.

*Янка К-ік.*

# Выбар бугая і каровы на племя.

У вялікіх гаспадарках, дзе шмат зямлі, шмат рожных сенажацяў, шмат рожнае пашы, можна разводзіць рожную жывёлу і працоўную, і мясную, і малочную; можна трымаць кожную пароду асобна і палепшваць яе. У малых гаспадарках трымаць жывёлу якой небудзь аднэй пароды шмат цяжэй, ды амаль што зусім немагчыма.

Цяжка дасягнуць, каб у аднэй карове былі злучаны ўсе тры іншыя уласнасьці, г. з. каб карова была добрага працоўнага сорту, мясная і давала шмат сытага, густога малака.

У нас ўсе гаспадарчыя працы выконваюцца галоўным чынам на конях і для нашага гаспадара надта важны дзьве апошнія асаблівасьці жывёлы, гэта—малочнасьць і вялікі вес мяса. Гэтыя дзьве асаблівасьці можна дасягнуць плямянным падборам, добрым даглядам цяляці і добрым утрыманьнем дойных кароў. Разьвіваць — выхоўваць добрыя якасьці, карыстныя для чалавека, магчыма толькі пры правідловым утрыманьні жывёлы. Дрэнным даглядам, неадпаведным падборам і дрэнным выхаваньнем цяляці можна зусім папсаваць добрую пароду, асабліва кароў малочных.

Падборам добрага быка, добрым утрыманьнем цельных кароў і цялят можна значна палепшыць стада; калі падбіраць ўсё лепшых і лепшых, правідлова даглядаць іх, дык можна ня толькі палепшыць жывёлу, але нават і усталіць краёвую пароду. Пры падборы на племя, перадусім трэба клапаціцца аб тое, каб бугай і карова былі здаровыя. Нездаровая жывёла мае выгляд ня вясёлы, часта з вачэй цячэ гной, звычайна бывае худая і мае грубую скуру, што нельга захапіць рукою. Шэрсьць у нездаровай жывёлы даўгая, грубая, не мае блеску і на амац сухая. Нельга браць на племя жывёлу і з вадамі у будове цела: з крывымі, слабымі нагамі, з прывіслаю ці гарбатою спіною, з вузкаю грудзьдзю і задам, адвіслым жыватом, і г. д. Так сама жывёлу сярдзітую, неспакойную, пуглівую, а так сама і вялую — трэба забракаваць.

Падбіраць па гадам трэба так, каб бугай быў не маладзейшы двух с паловаю гадоў, а карова не старэйшая васьмі гадоў і добра развіненая. Пакідаць на племя цёлак і бычкоў найлепш ад бугая і каровы у сярэдніх гадох (ад трох да васьмі гадоў). Целята ад кароў старых дрэнна растуць, асабліва тыя, што нарадзіліся у восень. Лепш пакідаць на племя тых цялят, што нарадзіліся раннею вясною, ці у канцы зімы. Бугай мусіць быць збудаваным правідлова,— з нявялікаю галавою, шырокім носам і ноздрамі, галава мусіць быць сухая, прыгожая,

ня цяжкая; шыя ня вельмі кароткая, сьпіна шырокая, роўная, неправіслая, не гарбатая і доўгая, паясьніца кароткая і шырокая па баках; хвост найлепш даўгі, з мягкаю шэрсьцю, і даўгімі валасамі на концы, перад шырокі, лапаткі і падплечча добра развіненыя, пакрытыя вялікімі мускуламі, рэбра шырокія; зад шырокі, пакрыты мускуламі на столькі, каб ня выдаваліся моклы, заднія ногі таўстыя, моцныя; бедра і голені добра развіненыя, з моцнымі мускуламі, а берцы больш сухія, моцныя; жывот круглы, поўны; пярэднія ногі мусяць быць больш кароткія, моцныя, роўныя; скура мае быць не таўстая з складкамі, асабліва на ногі, з мягкаю густою і блішчастаю шэрсцю.

Пры цяжкай вазе і вялікіх часьцінах цела, бугай мусіць быць вясёлы, спрытны, мець моцныя ногі, вочы ясныя, чыстыя ноздры, шырокія чыстыя, бяз гною і слізу, на целе ня мусіць мець ран і струпаў.

Галава ня мае быць вельмі вялікая дзеля таго, што было заўважано, што прыплод так сама бывае з вялікаю галавою, а некатарыя маладыя каровы цяжка разцельваюцца. Трэба прымаць пад увагу і сілу бугая пры случцы. Ня трэба так сама пакідаць на племя бугаёў надта гарачых, якія выкідаюць семья яшчэ да случкі. Вялых бугаёў, што ня вельмі ахвотна садзяцца на карову, як і занадта гарачых трэба ўнікаць, бо як тыя, так і другія лічацца ў гэтым сэнсе слабасільнымі.

Карова мусіць быць так сама здаровая, з шырокім задам, на роўных, кароткіх і моцных нагах, з даволі даўгою шыею. Галава можа быць і даўжэйшая, але сухая, з тупым, шырокім носам, з шырокімі чыстымі ноздрамі. Вочы маюць быць сьветлыя, спакойныя, не сьлязьлівыя, не хмурныя і не спалоханыя, рогі тонкія, вушы не вялікія, з кароткаю шэрсьцю, шыя тонкая і даўжэйшая, як у быка. Грудзі па магчымасьці шырэйшыя; вузкая грудзь, хаця часта і сустрэчаецца ў добрых малочных кароў, але калі пушчаць на племя, то патомства можа быць яшчэ больш слабае ў гэтым сэнсе, з нахілам да тубэркулёзу (сухвотаў). Галава, плечы, шыя маюць быць тончэйшыя, як у бугая, ногі сушэйшыя, скура і шэрсьць мягчэйшая. Зад мае быць шырокі, што неабходна пры цяленьні, а так сама мусіць быць даволі мейсца для вымяні. Трэба ведаць, якая карова дае патомства, як яна доіцца, яе характар, і праз тое трэба пакідаць на племя карову такую, якая мае ня меньш, як пяць гадоў, бо толькі ў гэтых гадох найлепш разьвіваецца малочнасьць. Маладая карова, хаця-б і была малочная і добрай пароды, трэба, каб апрача таго была яшчэ і спакойная, ня палахлівая, бо дзякуючы палахлівасьці можа страціць здольнасьць даваць шмат малака. Калі цёлка, пасьля першага ацёлу і дае мала малака, але паходзіць ад добрай маткі і бугая, то можа быць сама малочнаю і пазьней, у 5—6 гадоў. Трэба ведаць удоі каровы за весь перыяд даеньня. Добрыя малочныя каровы амаль што зусім „непушчаюцца". некаторыя дояцца толькі паўгода, а некаторыя ўсяго два ці тры месяцы.

Калі вясною, на добрай пашы, карова і дае шмат малака, але пярыяд даеньня кароткі, скажам тры, чатыры месяцы, дык агульны ўдой будзе малы, і такую кароў у трымаць няма сэнсу. Апрача таго трэба зварачваць увагу і на якасьць малака, ці яно густое, ці рэдкае. Рэдкае малако заўсёды сіняе па краёх, густое—белае і ня хутка зьбягае з пальца. На смак густое малако жырнейшае і на адзін кілёграм масла трэба такога малака значна меньш.

Купляючы карову, можна вельмі лёгка памыліцца аб унутраных яе якасьцях.

Калі карову кармілі рэдкаю пашаю, ці карове давалі соль і яна шмат піла, тады яна дае больш малака як звычайна, але рэдчэйшага; кормленая такім чынам карова, калі пройдзе на пашу сухую, то зьменьшыць удой, хаця-ж малако пры гэтым будзе лепшае якасьці. Карову можна прымусіць піць шмат вады, даючы ёй соль праз меру, але ад вялікай колькасьці солі карова можа папсаваць сабе жывот, ён тагды ня будзе травіць нармальна; тое самае можа здарыцца, калі будзем карміць толькі адною рэдкаю пашаю, памыямі з мукою, брагаю і г. д.

Ад такой пашы хаця карова спачатку і будзе выглядаць добра, але пасьля яна можа аслабець і аб'явіцца бягунка. У кароў, што перанясьлі галадоўкі, малако амаль што ня заўсёды рэдкае праз аслаблены арганізм.

Ня трэба карміць кароў мокраю, зялёнаю травою, бо гэта дрэнна ўплывае на ўдоі. Вось чаму, напрыклад, у познюю студзёную восень, і ў час вялікіх дажджэй у восені ня можна доўга трымаць дойных кароў на пашы. У летку ў часе грозы, вялікіх дажджэй трэба заганяць кароў у хлеў, бо напуганыя гразою каровы зьмяншаюць удоі.

Якой бы пароды карова, што выбіраем на племя, ні была, заўсёды перадусім мусіць быць здаровая, вясёлая і ў сярэдніх гадох (шэсьць, сем, восем і маладзей). Шэрсьць мусіць быць гладкая, мягкая, ня шорсткая, ня доўгая і ня сухая на мац, выгляд спакойны, нос халодны і вільготны.

Ня мусіць быць ран, струпоў, пухлін, накостнікаў, накаленных пухлін, згрубеньня скуры, верадаў, трэшчын на каронках капытаў, грыжы і г. д.

Галоўную ж увагу трэба заўсёды зварочваць на паходжаньне бацькоў.

*Гаспадар.*

---

Беларусы Радныя! Падтрымлівайце і распаусюджывайце свой орган „Беларускі Радны!" Прысылайце карэспандэнцы!

## Крызыс ральніцтва.

Быўшы міністар Владыслаў Грабскі выгласіў на ральнічым курсе ў Кракаве адчыт аб крызысе ў ральніцтве. Крызыс гэты абхапіў пасьля вайны ўвесь сьвет. Праявамі яго зьяўляюцца хістаньня ў цэнах і зьмяншэньне ўраджаю. У Эўропе збор жыта з гэктара складаў перад вайною 13,5, а пасьля вайны 12,6 квінталяў (квінталь = 100 кіляграмам ці 6 п. 6 ф.) У Польшчы наагул збор з гэктара ўзрос на 10%, але толькі дзеля таго, што перад вайною ураджай ў быўшай расейскай вобласьці быў вельмі нізкі. Праявою крызысу ў нас зьяўляецца засеў толькі 87 проц. даваеннага тэрэну, што зьменьшыла агульны збор на 30% ў параўнані з даваенным станам.

Далей лектар указаў на рух цэнаў на рольныя прадукты пасьля вайны. Цэны на гэтыя прадукты значна панізіліся дзеля таго, што ўзрасьлі цэны на рэчы прамысловага вырабу: Напрыклад пакажчык цэнаў два гады назад для рольных прадуктаў (пры 100 у 1914 г.) складаў ў Польшчы 98 (у Эўропе 122), а для рэчаў фабрычнай прамысловасьці 136 (Эўропа — 144), для прадуктаў дамовага спажыцьця 139 (у Эўропе 179). У апошні час цэны на рольныя прадукты значна ўзрасьлі; пакажчык з верасьня 1927 г. у Польшчы для рольных прадуктаў быў 129, у той час як для рэчаў фабрычнай прамысловасьці — 114.

## Экспорт жывёлы за граніцу.

У працягу першых 9 месяцаў бягучага году вывезяна з Польшы 532,000 штукі нерагатай жывёлы на суму 65 мільёнаў залатых франкаў у параўнаньні з 492,000 шт. на суму 37 міл фр. у гэткі пярыяд мінуўшага года. У апошні час значна панізіўся вываз гусей. За гэты пярыяд вывезена 500,000 гусей на 2, 4 міл. фр., у той час, як у мінуўшым годзе экспорт гусей за аналягічны пярыяд складаў 681,000 шт. на 2,5 м. фр.

Вываз коняў і рагатага статку нязначны.

Вартасьць экспарту жывых птушак да канца верасьня дасягнула 75 міл. фр. у параўнаньні з 52 міл. фр. у мінуўшым годзе. Экспарт бітых значна павысіўся, дасягаючы за 9 месяцаў сумы 4 м. фр. Гэта ў два разы перавышае ўвесь экспорт 1926 г. і яшчэ больш у параўнаньні з 1925 г., калі за ўвесь год было вывезена толькі на 1,5 міл. фр.

## Новая прадзільня воўны у Вільні.

Вельмі паважнаю дамашняю прамысловасьцю дробнага рольніка зьяўляецца ткацтва. Вялікае значэньне гэтай галіны прамысловасьці ацэняна як грамадзянствам і самаўрадамі, гэтак і дзяржаваю. Дзеля гэтага ткацтва карыстаецца падтрымваньнем шляхам адчыненьня ткацкіх школаў для падрыхтоўкі інструктараў і паказных ткальняў у мястэчках і вёсках, якія падтрымліваюцца субсыдыямі павятовых выдзялаў соймікаў і іншымі інстытуцыямі, маючымі мэтаю узмацненьне сялянскай прамысловасьці.

Для разьвіцьця ткацтва ў Віленскім ваяводзтве да гэтай пары стаялі паважныя перашкоды у тым, што ня было мэханічных прадзільняў, якія загатаўлялі-бы пражу для тканьня. І кожная гаспадыня павінна была траціць доўгія зімовыя вечары на пражу воўны, у той час як мэханічным способам гэта можна было бы зрабіць і скарэй і лепей. Цяпер гэта перашкода часткова усунута. У Вільні (вуліца св. Анны, 3) адчынілася першая мэханічная прадзільня, якая ў дзень прадзе каля 100 кіляграмаў воўны.

Для ручного ткацтва мэханічная прадзільня мае вельмі вялікае значэньне, бо аблягчае выкананьне рожных гатункаў тканяў з авечай воўны мейсцовай гадоўлі і аднačасова памысна ўплыне як на разьвіцьце дамовага тканьня, гэтак і на палепшаньне і падняцьце гадоўлі авец.

## Гаспадарчы параднік.

### Што рабіць гаспадару у сьнежні?

Хай кожны гаспадар раздзеліць корм, які мае для сваей жывёлы, на дзьве часьціны: адну, што палежыць аддаваць каровам, а другую коням і аблічыць усё, каб хапіла да вясны.

За саннай дарогай старайцеся зрабіць запас на увесь год уселякага дрэва — на апал, на агарожу, на гаспадарскія снасьці: дышлі, аглоблі, сохі, запасныя зубы да грабель і іншае гаспад. драбязы. Старайцеся зарабіць крыху грошэй — з канём, ці з сякерай у лесе. Хто яшчэ не намалаціў, няхай

да каляд пастараецца гэна зрабіць, каб мышы дарэмна не глумілі збожжа. Наагул трэба аглядаць усю гаспадарку і трымаць у чыстаце. Калі хто дагэтуль не абвязяў прышчэпаў, хай пасьпешае цяпер гэта зрабіць, бо вясновае сонца можа шмат нарабіць шкоды.

Гаспадыні. Глядзець за дзяцьмі, каб ня грэліся на агню, бо гэта вельмі шкодзіць на здароўя. Забясьпечыць варыўню ад холаду, каб не памёрзлі запасы. У канцы сьнежня добрыя куры пачынаюць нясьціся. У маразы паіць хатнія птушкі летняю вадою.

Пчаляру. Устрыацца ад усялякіх направак вульёў. Сьцерагчы іх ад шкоднікаў. Вылётаў ня зачыняць, каб хворыя пчолы, паміраючы, мелі выхад, але забясьпечыць іх ад ветру і завеі. Добра, калі вылёты будуць заслонены яліною, ці ялаўцом ад птушак і мышэй. Мышы паміж іншым вельмі ня любяць мяты. Ставіўшы вульлі на зімоўку, можна класьці галінкі мяты ўсюды — і на вульлі, і на пакрышку, і на намосьце. Пчолам ад мяты нічога ня робіцца.

### Дзесяць запавядзяў для гаспадара.

1. Бярэжы і працуй, глядзі, каб усё была заўсёды ў парадку, ляжала акуратна і штто ў гаспадарцы не прападала дарэмна — старайся усё скарыстаць.
2. Не пачынай араць, пакуль баразна блішчыць, а то яе не разбаранеуш.
3. Не заорывай гной глыбока у мокрую зямлю, бо ён не дасьць карысьці пасеву.
4. Меньш перэкідай зямлю плугам, а часьцей бярыся за барану.
5. Не скародзь зяб на зіму, бо зямля лішне зьлягаецца.
6. Чым хутчэй заарэш канюшынішча, тым лепшая будзе жыта.
7. Ад орыва да пасеву жыта зачакай два тыдні.
8. Якім зярном пасееш, такі і колас вырасьце.
9. Меньш дзяржы скаціны, лепш кармі — зьбярэш гною больш і лепшага.
10. Калі ня ведаеш, як што рабіць у гаспадарцы — зайдзі парадзіцца да людзей сьвядомых у гэтым.

## Біржа.

| | |
|---|---|
| Даляры | 8,88—9,00 зл. |
| Рублі зал. | 4,73 зл. |
| Рублі сяр. | 2,90 зл. |
| Чырвонцы | 31,95 зл. |

### Збожжа

*(у Вільні)*

| | |
|---|---|
| Жыта (100 кілагр.) | — 42 зл. |
| Авёс | 40—43 зл. |
| Ячмень браваровы | 46—47 зл. |
| Ячмень крупяны | 40—42 зл. |
| Отрубі жытнія | 30—31 зл. |
| Отрубі пшанічныя | 31—32 зл. |
| Салома жытняя | 9—10 зл. |
| Бульба | 12—14 зл. |
| Лён: валакно I сорт (пуд) | 40—50 зл. |
| „ „ II „ „ | 25—35 зл. |
| Семя льнянае | 10,50—11,50 зл. |

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ.

## Зьезд бурмістраў, войтаў і сэкрэтароу.
### МАЛАДЭЧАНСКАГА ПАВЕТУ.

Пачынаючы ад 22 лістапада ў працягу 4 дзён адбываўся ў Маладэчне зьезд бурмістраў, войтаў і гмінных сэкрэтароў Маладэчанскага павету, які меў быць ня толькі справаздаўчым і інфармацыйным, як звычайна, але меў яшчэ характар распачацьця супольнай і ўзаемнай працы давучаючай. З гэтай мэтай кожны вучасьнік зьезду мусіў прачытаць рэфэрат на зараней вызначаную тэму. Прачытана 65 рэфэратаў, якія датыкаліся ўсялякіх галінаў працы гмінных Самаўрадаў і грамадзкай.

Пасьля шмат увагі было ўдзеляна справе зьменшэньня шарварачнай павіннасьці і наагул гэтай справе.

Дзеля таго, што ў гэтым зьездзе першы раз бралі ўдзел беларускія войты і солтысы, цікава адцяміць, як пішуць аб ім польскія газэты.

„Kurjer Wilenski“ кажа: „беларусы, ізаляваныя даўнейшымі павятовымі ўладамі ад Самаўрадавай працы, на апошніх выбарах адначак-жа трапілі да Самаўрадаў і дапушчэньне іх да гэтай працы надта добра ўплынула на адносіны Беларускага Народу да ўладаў Дзяржаўных і Самаўрадавых“

Далей, гаворачы аб прамовах, якія былі выглашаны на зьезьдзе, між іншым кажа: „беларускія войты ці солтысы, якія да гэтага часу адсоўваліся ад Самаўрадавай працы, цяпер прамаўлялі толькі дображадана да істнуючых уладаў, што не аднаразова кідаліся вітальныя крыкі на чэсьць Прэзыдэнта Рэспублікі і Маршалка Пілсудзкага“...

І ня толькі гэтыя прамовы прадстаўнікоў беларускага Народу, але і іхняя цяперашняя дзейнасьць даводзяць, што ў Беларускім Народзе безумоўна знайдзем самых

лёяльных грамадзянаў да Польскай Дзяржавы, калі да іх будзем мець шчырую, памаёвую палітыку, якая нажаль з нашага боку дайшла да іх толькі ў палове гэтага году.

Прайшло некалькі месяцаў, як на становішчах павятовых кіраўнікоў сталі новыя людзі. Распачатая новая праца настолькі зблізіла Беларускі Народ з нашымі ўладамі, што ўжо няма мовы аб тых „васьмі горшых гмінах, апанаваных Грамадаўскімі гурткамі", і мы пераканаsuccessfully, што цяперашні Маладэчанскі Стараста значна спакойней глядзіць на будучыню, чым ягоны сусед Стараста Вялейскі, які са шчырасьцю прызнаўся нарэшце (ляпей пазьней — чым ніколі), што ня мае даверра сярод грамадзянства.

Бо трудна мець даверра грамадзянства, калі сам яго да гэтага грамадзянства ня маеш. Хто даўней знаў той тэрэн і адносіны мейсцовага Народу да нашых уладаў, яго зьдзівіла-бы сёньняшняя лёяльнасьць тых „васьмі найгоршых гмін". Але ко кнай працай трэба ўмець кіраваць.

Мы ня можам сяньня сцьвердзіць, што гэты стасунак ужо ніколі ня зьменіцца, але ёсьць пэўным тое, што пакуль лінія, паказаная кіраўнікам цяперашняга ўраду — Маршалкам Пілсудзкім, будзе праводзіцца, да таго часу можам быць супакойнымі за даверра тутэйшага грамадзянства. Толькі на гэта трэба — дабрасовесная і чэсная праца і адносіны да Беларускага Народу, як да роўнага сабе".

Гэтак кажа „Kurjer Wileński". Вітаючы ягоныя словы, мусім сцьвердзіць, што „owe osiem najgorszych rojących się od hurtków gmin" як раз і ёсьць тым тэрэнам, дзе апошнія часы працавалі нашыя арганізацыі, а тым войтам, прамова якога найбольш падабалася „Kur. Wileńskiemu" — ласьне ёсьць войт М. Пятровіч, — сябра Беларускай Нацыянальнай Партыі і Рады.

---

## Нашыя парадкі.

*(Лужкі, Дзісьненскага павету).*

Пры выбарах у гмінную Раду 24-VI-27 г., хаця сяляне нашыя ішлі і разьбіта, але ўсё-ж такі правялі 8 радных беларусаў. Апрача іх увайшлі ў Раду 2 абшарнікі, 1 асаднік і 1 жыд.

Выбары войта адбыліся 6 ліпня. Каб пазбыцца старога войта Жэлігоўскага, які быў вызначаны Дзісьненскім Старастай у сьнежню 1927 года, гм. Рада выбрала на войта на‘т не раднага — гр. Аляксандра Зэйфэрта — асобу палітычна чыстую і чэсную, проці якой на‘т такі беларусаед, як Стараста наш Станішэўскі, нічога ня мог сказаць і зацьвердзіў.

Але вось што дзіва! Да Зэйфэрта зьявяліся дэлегацыі—адна з абшарнікам Драздовічам на чале, а другая з камэндантам пастарунка Каспшыцкім, якія разам з абшарнікам Анцянам у адзін голас намаўлялі, каб ён зрокся пасады на карысьць Жэлігоўскага, бо гэтак хоча Стараста, і ён доўга войтам не патрымаецца. Як казалі, так і здарылася. А распачалося гэтак: па зацьверджаньні войтам — Зэйфэрта, ягоным заступнікам зацьвердзілі Яна Краснадубскага—беларуса праваслаўнага і адначасова без усялякіх прычынаў звольнілі сэкрэтара Франца Краско, і на ягонае мейсца вызначылі б. войта Осіпа Жэлігоўскага з пэнсіяй па IX катэгорыі (а Краско атрымліваў па X кат.), і з першага дня пачаліся інтрыгі Жэлігоўскага проці Зэйфэрта. Барацьба цягнулася аж да канца верасьня і нарэшце Зэйфэрт ня вытрымаў і падаўся ў адстаўку. Ясна, што зараз-жа яго звольнілі і каб не павабна было іншым лезьці ў войты — дык не дапусьцілі заступніка Я. Краснадубскага выконваць абавязкі войта, а вызначылі войтам з Паставаў п. Чапрыцкага. Гмінная Рада была страшэнна абурана, што п. Стараста ня вызначыў новых выбараў, а даў адразу войта па вызначэньню. Але што рабіць, калі Стараста п. Станішэўскі ня хоча і зусім ня лічыцца з гмін. Радай!.

Вось прыклад: 30 верасьня гм. Рада, пасьля разгляду бюджэтных справаў і некаторых договараў на выкананьню рожных работаў, як — будова школы ў Ізабэліне, брукоўка рынку, закуп матэрыялаў і г. д. — заўважыла, што б. войт Жэлігоўскі сваей неактуальнай працай наразіў гміну на паважныя страты, а ласьне: страха на Ізабэлінскай школе была забракавана Прыёмнай Камісіяй, а войт Жэлігоўскі пасьля некалькіх дзён узяў дый выплаціў падрадчыку. За будову мастоў трэ' было заплаціць па ўмове 150 зл., а заплачана 200. Як заявіў падрадчык Алексін гр. гр. Пятру і Міхалаю Кушнорам і Янцы Мецеліцы — дык гэтыя грошы пайшлі на гарэлку Жэлігоўскаму.

На брукоўку рынку было асыгнавана 3000 злотых і трэ' было выбрукаваць 1176 метраў, а Жэлігоўскі так дагаварыўся з падрадчыкам, што не дапасаваў да бюджэту і прыйшлося даплаціць яшчэ 1440 зл і гэтыя грошы сьцягівалі з жыхароў гміны. Вапна была закуплена без таргоў і па самым высокім цэнам. 3 масты ў бок Цутранцаў былі аддадзены так сама без таргоў і па 30 злотых за кожны, а тым часам іх можна было збудаваць самае большае за 40 злотых. Умова на сталярскія работы гэтак сама была падпісана без таргоў і па найвышым цэнам і г. д. і г. д.

Гмінна Рада, даглядзеўшы ўсё гэтае, прасіла п. Старосту, каб звольніў п. Жэлі-

гоўскага і калі гэта справа была пастаноўлена на галасаваньне, дык проці было тольkі 3 галасы, а 10 за пастанову. І ўсе ня могуць не надзівіцца, як гэта самаўрадавы інспэктар Дзісьненскага Аддзелу п. Каз. Красоўскі ў сваім пратаколе аб рэвізіі Лужскай гміны 4—6 кастрычніка г. г. піша, што Жэлігоўскі, выйшаўшы з межаў бюджэту, быцпам зрабіў карысьць гміне. А чаму п. Красоўскі не знайшоў у гмінных актах аб таргох, што работы аддаваліся не таму, хто прапанаваў таней, а таму, каму хацеў Жэлігоўскі і наагул – чаму больш драбязгова не пацікавіўся справай будовы Ізабэлінскай школы? А тамака ёсьць ой-ой колькі цікавага.

Але тутака ішло аб тым, каб абяліць п. Жэлігоўскага і ачарніць Раду, якая складаецца пераважна з беларусаў. Не дарма п. Староста ня высылае фаховай камісі, аб якой Гмінная Рада ўжо 2 разы прасіла.

Дык нарэшце паўстае пытаньне: Ці можа Рада пры такіх варунках лічыцца Самаўрадам і прадукцыйна працаваць. Памажэце нам! Бо для нармальнай працы і жыцьця гм. Рады ёсьць неабходным.

1) адмяніць войта па вызначэньню Чапрыцкга і вызначыць новыя выбары.

2) Дапусьціць Янку Краснадубзкага да выкананьня абавязкаў заступніка войта, як зыбранага Народам.

3) Звольніць пісара Жэлігоўскага згодна пастанове Гм. Рады ад 30 верасьня.

4) Просіць ізноў аб прысылцы фаховай інжэнэрнай камісіі для спраўджэньня, колькі і якога матэрыялу пайшло на будову Ізабэлінскай школы, якасьць работы, недахопы, учыняныя на дзесяткі тысячаў стратаў.

5) Зьвярнуць увагу на Дзісьненскага Самаўрадавага Інспэктара п. К. Красоўскага, які абразіў Гм. Раду у сваім рэвізыйным пратаколе ад 4 — 6 кастр., заявіўшы, што гм. Рада няслушна робіла закіды п. Жэлігоўскаму ..

*Лужскі Грамадзянін.*

## Вось дык Радны!

*(Навасёлкі, Ракаўскае гміны).*

Мне прыйшлося чытаць газэту „Праца“ (№ 3 ад 12 лістапада), дзе прачытаў пісьмо раднага Радашкавіцкай гміны Пракопа Казюкевіча.

Дык вось аб гэтым Казюкевічу я і хачу крыху сказаць, каб ведалі, хто гэта такі ёсьць, бо гэткія пісьмы пішуць такія радныя, якія любяць чужынку і чужыя крывавыя грошы. А як ён ідзе за народ, як ён для яго працуе, відаць з наступнага. Калі ён быў у „Грамадзе“, дык умеў толькі добра ўсе сяброўскія складкі заганяць у... бутэльку. Але гэта яшчэ ня усё. Калі быў у Радашкавіцкай парахвіі збор на царкву, і ён быў зборшчыкам, дык грошы сабраў, але... здаў не на рэмонт царквы, а на рэмонт „манапольки“. Жыхары вёскі Вазгіл, даведаўшыся ад бацюшкі, што ён — Пракоп Казюкевіч — грошаў не здаў, былі страшэнна абураны. І толькі пасьля ўжо выясьнілася, што грошы гэтыя дасталіся нейкаму жыду і былі растрачаны. Дыы вось якія ёсьць радныя і чаго яны варты!

*Сусед па гміне.*

## Нашыя клопаты.

*(Ракоўскай гм. Маладэчанскага пав.)*

Выйшла ў нас распараджэньне ні то ад старасты, ні то ад ваяводы, каб некалькі вёсак перавясьці да Гарадцкай гміны. Але-ж гэта яшчэ ня гора, а гора у тым, калі перавядуць Навасёлкі Дуброва і б. м-к Адамарына — цяперашняя асада нашага войта,— дык ня быць ўжо яму вайтам Ракаўскай гміны. Рабілі сходы, пасылалі дэлегацыю да староства, пісалі паданьні, нат падпісаліся жыхары, што ня хочуць пераходзіць ў Радашкавіцкую гміну, але нічога з гэтага ня выйшла, бо жыхары кажуць: каму шкада цёплага мейсца і сваіх пэнсыяў, няхай той і клапоціцца!!...

Пасьля новага году ў нас адбудуцца выбары новага солтыса Просім зьвярнуць ўвагу і дапамагчы нам, бо гэтыя выбары могуць прынясьці вялікую карысьць для нас.

*Праўдзівы.*

## Юрыдычныя парады.

### ЯК ЗДАБЫЦЬ ДАКУМАНТЫ, СЦЬВЕРДЖАЮЧЫЯ ПРАВА УЛАСНАСЬЦІ СЯЛЯН НА ЗЯМЛЮ.

Вялікай перашкодай у наладжаньні гаспадарчага жыцьця нашае вёскі зьяўляецца адсутнасьць у большасьці сялян дакумантаў, сьцверджаючых іх права ўласнасьці на зямлю. Тыя, што былі, — часта-густа загублены ў часе вайны; архівы, скуль можна іх было дастаць, некуды вывезены, так сама вывезены

і мусіць прапалі ваенныя кнігі, г. зв. рэвізкія казкі і г. д., па якім можна было сцьвердзіць права ўласнасьці.

І вось — пры куплі — прадажы, закладзе зямлі, пры спрэчках і судовых спорах, урэшце — пры здабыцьці пазыкі — адсутнасьць гэтых дакумантаў да ецца ў знакі, даводзячы часамі да ўтраты зямлі.

Гэтая балячка нашае вёскі цяперака можа быць зусім вылячана, дзякуючы апошняму распараджэньню п. Прэзыдэнта Рэспублікі. Згодна гэтага распараджэньня дакуманты на права уласнасьці на зямлю могуць быць зроблены на аснове пастановы вясковага сабраньня. Робіцца гэта так:

Калі нехта патрабуе, ці хоча мець акт права уласнасьці на падзельную, зямлю якую маець, падае аб тым у гмінны ўрад прашэньне. Войт на падставе гэтага склікае вясковае сабраньне, якое складаецца з сялян, якія маюць у даннай вёсцы надзельныя землі. Сабраньне гэтае пастанаўляе, ці прасіцель мае права ўласнасьці на надзел, якім уладае, ці не, і акрэсьлівае колькі зямлі яму належыць. Для важнасьці вясковага сабраньня патрэбна ёсьці прысутнасьць прынамсі паловы гаспадароў, маючых права голасу на грамадзкіх сабраньнях.

Па ўплыве 30 дзёй ад дня пастановы войт гміны ў прысутнасьці двух сьведкаў павінен спраўдзіць на мейсцы пастанову і пераслаць яе да месяцовага Міравога Суду для зацьверджаньня. Перад адсылкай пастановы павінна яна быць вывешана на доме солтыса і ў гміннымурадзе праз 14 дзён, у працягу якіх можна прынасіць жалабы. Суд пастанову зацьверджае, альба адкідвае.

Пастановы Міравога Суду могуць быць абжалаваны ў Акружны суд у працягу 30 дзён ад дня даручэньня заінтэрэсаванаму копіі пастановы. На пастановы Акружнага Суду могуць быць прынесены касацыі да Найвышэйшага Суду ў працягу 60 дзёя ад дня пастенаўленьня Суда. Калі б вясковае сабраньне з якіх небудзь повадаў не магло адбыцца, альбо калі-б яно не пажадала выдаць належную пастанову, — солтыс павінен зрабіць праверку, ці просьба даннай асобы аб прызнаньні права уласнасьці зьяўляецца слушнай і сваю праверку (dochodzenie) пераслаць у Суд.

Такім парадкам адтрыманыя пастановы зьяўляюцца важнымі для ўсялякіх здзелак аб куплі—прадажы, агранічэньню правоў, пазычках.

*Паданьні, а такжа ўсе засьведчаньні і копіі звальняюцца ад аплат дзяржаўных і самаўрадавых і падлягаюць аплаце толькі аплат удовых.*

## ПАЗЫКІ НА КУПЛЮ ЗЯМЛІ.

З Дзяржаўнага Банку Рольнага выдаюцца пазычкі на куплю зямлі наступным катэгорыям грамадзян:

1) Малазямельным участнікам „Scalenia" (пры выхадзе на адрубы ці хутары), якія набываюць зямлю з мэтай павялічэньня свайго вучастка („upełnorolnictwie".

2) Выўшым уласьнікам малазямельных гаспадарак, якія на прапазыку Земскага Ўраду продалі свае гаспадаркі на павялічэньне іншых гаспадарак, а самі купляюць большыя вучасткі.

3) Фальварачным працаўнікам, якія пры распарцэляваньні маёнтку страцілі свае гаспадаркі.

4) Заслужаным жаўнерам і інвалідам Польскай арміі, а таксама польскіх дабравольчаскіх фармацыяў.

5) Дробным арандатарам, якія хочуць купіць тыя вучасткі, якія арэндуюць.

6) Сямьям забітых жаўнераў польскай арміі альба добравольчаскіх польскіх фармацыяў.

7) Закончыўшым школы рольнічыя.

8) Рээмігрантам, якія павінны былі пакінуць межы чужых дзяржаваў з палітычных прычынаў.

Пазыкі гэтым асобам даюцца на тэрміны 5, 15, 25 і 35 гадоў. Тэрмін заплаты пазыкі для асобаў паказаных у п. 2, 3 і 4 — лічыцца пасьля 1—3 гадоў ад дня атрыманьня пазыкі.

У працягу гэтых 1 — 3 гадоў — яны пазыкі не сплачваюць.

Асобы, якія хочуць атрымаць пазыку на куплю зямлі, павінны падаць да Акружнага Земскага Ўраду прашэньне, ў якім паказваецца сумма жаданай пазыкі, абшар вучастка, які купляецца, з якога маёнтку, а так-жа на які тэрмін пажадана атрымаць пазыку.

## ПАЗЫКІ НА ЗАГАСПАДАРАВАНЬНЕ.

Так сама могуць быць атрыманы пазыкі на наступныя мэты:

1) На будову, альбо паправу будынкаў для жыцьця і гаспадарчых.

2) На куплю жывога і мёртвага інвэнтару, а так жа насеньня і іншыя аднаразовыя выдаткі, якія зьвязаны з загаспадараваньнем купленага вучастку, а асабліва на аплату за засевы, запасы і г. д.

Гэтыя пазыкі выдаюцца асобам, якія ўжо зацьверджаны, як набыўцы.

Пазыкі на загаспадараваньне выдаюцца на 5, 10 альбо 15 гадоў, згодна з жаданьнем прасіцеля. Тэрмін аплаты лічыцца пасьля 4 гадоў ад дня атрыманьня пазыкі. Гэтыя 4 гады — ульговыя і пазыка ў іх працягу не сплачваецца.

Прашэньні аб гэтай пазыцы падаюцца да Паветовага Земскага Ўраду на спэцыяльных блянках, якія можна атрымаць у гэтым-жа ўрадзе.

Калі хто жадае атрымаць пазыку адначасна на куплю зямлі і на загаспадараваньне — можа прасіць аб гэтым у адным прашэньні.

У выпадку няўраджаю, пажару ці іншага няшчасьця, сьмерці або цяжкай хваробы даўжніка — сплата чарговай раты доўгу можа быць адстрочана да 3-х гадоў.

*Пытаньне.* Ці мае права гмінны ўрад па выканаўчаму сьпіску Суда спаганяць прысуджаныя грошы арандатара маёнтку праз вываз на ліцытацыю сена і саломы, пазастоўляючы яму папы толькі на месяц, калі ў кантракце гаворыцца, што арэндатар 1) не мае права вывазіць з арэндаванага маёнтку ні сена, ні саломы і 2) павінен утрымліваць 2 каней і 4 каровы.

*Адказ.* Згодна артыкулаў 974 і 975 уст. цывільн. дзел могуць падлягаць ліцытацыі збожжа, сена, салома. Небходныя на найбліжшы засеў і ўтрыманьне людзей, а так сама рабочай жывёлы аж да новых збораў, аднак жа ў тым толькі выпадку, калі нявыклікае гаспадарчага растрою маёнтку і іх можна адлучыць ад рухомай маемасьці, ці калі сам маёнтак ня можа быць прададзены.

*Пытаньне.* Ці гміна абавязана даваць бязплатную фурманку акушэрцы, якая едзе да хворай настаўніцы пачатковай школы?

*Адказ.* Не абавязана, бо ні настаўніца, ні акушэрка не карыстаюцца правам бязплатных фурманак.

*Пытаньне.* Ці войт абавязаны даваць на пераглядь касовыя кнігі на жаданьня кожнага паасобнага Сябры Гміннай Рады?

*Адказ.* Нагляд за фінансавай і рахунковай гаспадаркай войта апрача наглядных ўладаў выконвае ці сама гмінная рада, ці выбраная праз яе камісія, якія маюць поўныя правы даваць указаньні і кантралявацьусю фінансавую рахунковасьць, а паасобныя радныя гэтага права ня маюць, (§ 9 instr. dla rad gminnych z dnia 1919 r. — okólnik M. S. W. Nr. 196 z dnia 12-IV-1919 r. Nr. 45592 S VIII—1000 -1 i § 45 rozporządzenia M.S.W. i Ministra Skarbu z dn. 28-III-27 Dz. U Nr. 38 p. 345 i okóln Nr. 99 M.S. W. z dn. 6 maja 1927 Nr. 5. § 2231 27)

*Пытаньне.* Ці войт мае права атрымоўваць у натуры апал і сьвятло.

*Адказ.* Можа атрымліваць, але вартасьць іх навінна быць залічана ў пэнсыю. Нормужа акрэсьляе гм. Рада, а зацьверджае аддзел павятовы (§ 18 Rosporządz. Prezydenta Rzplite, z dn. 30 XII 1924 r. Dz. Ust. Nr. 118 p. 1073.)

*Пытаньне.* Ці сэкрэтар гміны мае права карыстацца бязплатнай фурманкай?

*Адказ.* Можа карыстацца толькі выключна ў урадавых справах і бліжэйшыя дарогі ў гэтых выпадках акрэсьляе гмінная рада.

# ХРОНІКА.

**— Выбарчы Рэфэрат пры Віленскім Ваяводзтве.** У зьвязку з загадам Прэзыдэнта Рэспублікі аб выбарах да Сойму і Сэнату п. Ваявода Віленскі стварыў 6 сьнежня спэцыяльны Выбарчы Рэфэрат, які будзе кіраваць усімі адміністрацыйнымі справамі, зьвязанымі з выкананьнем загаду аб выбарах на тэрэне Віленскага ваяводзтва. Выбарчы Рэфэрат мае асобную канцэлярыю пры адміністрацыйным выдзяле Ваяводзтва. Кіраўніцтва Рэфэратам даручана ваяводзкаму радцы п. М. Паўлікоўскаму.

**— Паседжаньне Віленска-Ттоцкага павятовага Сойміку.** 6 сьнежня адбылося ў памешканьні выдзялу павятовага паседжаньне Віленска-Троцкага Сойміку, на якім быў ухвалены між іншым правізарычны бюджэт цля гмінаў павету на 1928 — 29 г. і ўрухоміць у бягучым годзе курс крою і шыцьця пры гаспадарчай школе ў Міхалішках.

Апрача гэтага разглядаліся пратаколы гмінных Радаў, пратакол рольнай камісіі ў справе выкананьня бюджэта на запамогі для скамасаваных вёсак і справа будовы магазынаў збожжа для патрэбаў насяленьня. Нарэшце разглядалася пытаньне аб накрэсьленьні сеткі павятовых дарог. У віду будовы некалькіх новых дарогаў папярэдняя сетка падлегае значным пераменам.

**— Зьезд Старастаў.** 28 — 30 лістапада адбыўся ў Вільні ў гмаху Ваявудзтва зьезд Старостаў Віленскага ваяводзтва. Кіраваў зьездам Ваявода п. Рачкевіч. На зьезьдзе былі прысутнымі — дэлегат Міністэрства Унутраніх Спраў, інспэктар службы Здароўя п. Грышкевіч, афіцэры інструктары вайсковага прыспасабеньня і кіраўнікі ўсіх аддзелаў Віленскага Ваяводатва. На зьездзе разглядаліся справы фізычнага выхаваньня і справы работы Самаўрадавай.

**— ХВАРОБА НАЧАЛЬНІКА САМАЎРАДАВАГА ВЫДЗЯЛУ.** У віду хваробы Начальніка Самаўрадавага Выдзялу Віленскага ваяводзтва п. Ваявода даручыў кіраўніцтва гэтым выдзялам начальніку адміністрацыйнага выдзялу п. Вл. Дваракоўскаму з днячасовым выпаўненьнем сваіх абавязкаў.

**Старшыня К-ту** па справам Самаўрадавым п. Ян Ярош выехаў на правінцыю на паседжаньне Нясьвіскага Сойміку, дзе будуць разглядацца пытаньні аб бюджэце, аб эмэрытальным забеапячэньні самаўрадавых працоўнікоў і інш. Пасьля гэтага паедзе ў Гавезьнянскую гміну на конфэрэнцыю Радных.

10-га прыйме ўдзел у Камісіі Рапьнічай Нясьвіскага Сойміку, а 14-га на паседжаньні Радных Сіняўскай гміны.

**— Сябра Прэзыдыуму К-ту** п. Друцкі-Падбярэзкі выехаў у Валожынскі павет па самаўрадавым справам.

**— Сябра Прэзыдыума К-ту** п Палюкевіч у справах Самаўрадавых выехаў у паветы Баранавіцкі, Слонімскі і Нясьвізкі.

**— Выбары** войтаў, заступнікаў і лаўвікаў у гмінах Снооўскай, Клецкай і Гавезьнянскай Нясьвізкага павету на гэтых днях адбыліся і былі выбранымі:

**У Сноўскай гміне:** войтам гр Чэчэт і заст. войта гр. Заяц — абыдва беларусы.

**У Клецкай гміне:** войтам гр. Дзямянюк, заступн. войта гр. Конак і лаўнікам гр. Таўкач — усе беларусы.

**У Гавэзьнянскай гміне:** застаўся перавыбраны стары ўрад.

Выбары ў Клецкай гміне ня былі зацьверджаны п. Старостай і пасьля новых выбараў засталіся ізноў выбраныя тыя самыя асобы.

Нічога не зрабілі, — голас Народу — голас Божы.

25 лістапада адбыліся перавыбары Радных у **Чамэрскай** гміне.

**У Міжавіцкай гміне** ў некалькіх абводах запратэставаныя выбары сяброў гміннага сабраньня.

**— КУРСЫ ДЛЯ БУГАЛЬТАРАЎ КАСАЎ СТЭФЧЫКА.** 5 сьнежня распачаліся курсы для бугальтараў каапэратыўных касаў Стэфчыка, зарганізаваныя Віленскім вокругам Рэвізыйнага Саюзу Польскіх Рапьнічых Каапэратываў.

— **РАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПРАДУКЦЫЯ ЛЬНУ.** У мэтах павялічэньня прадукцыі льну ў Віленскім і Навагрудзкім ваяводзтвах, як найбольш карыснай расьліны на гэтых землях, Міністэрства Ральніцтва стварыла ў Лардунах дасьведчальную станцыю, якая займецца выпрацоўкаю найлепшых сартоў льну для тутэйшых кліматычных варункаў.

— **АБСАДКА ДРЭВАМІ МЕСТАЎ, МЯСТЭЧАК і ВЕСАК.** Згодна распараджэньня Міністра Унутраных Спраў ад 2-XI 27 № 453|27 у працягу сакавіка і красавіка 1928 г. распачнецца абсадка дрэвамі пляцаў і вуліц гарадоў, мястэчак і вёсак.

Рынкі і пляцы, якія не маюць гістарычнае вартасьці, будуць з усіх бакоў абсаджаны дрэвамі, а пасярэдку апрача дрэваў будуць разьбітыя яшчэ і кветнікі.

Для выкананьня гэтага гміны цяпер унясуць у бюджэт пэўныя сумы, а ў працягу зімы правядуць прыгатаваўчую работу, як замаўленьне дрэвак, нагнаеньне зямлі, закантрактаваньне фахоўцаў — спэцыялістаў і г. д.

— **Справы інтэрвэнцыяў:** аб парацках у гміне Лужскай Дзісьненскага павету інтэрвэнцыя зроблена і справа высьвятляецца.

Справа праваслаўнага магільніка ў Дунайчыцах Нясьвіскага павету высьвятляецца і п. Старостай забароняна вырубка дрэва на магілках. Справа Сьветавастокага высьвятляецца ў пракурора.

— **ДОБРЫ ПАЧЫН.** Да нас дайшлі весткі, што ў Вільні мае паўстаць Таварыства беларускіх аграномаў. Ініцыятыўная група пасылае інжэнэра А. Малевіча да Варшавы, Львова і іншых местаў для навязаньня беспасрэдняга кантакту з рожнымі гандлёва-прамысловымі фірмамі і аналягічнымі арганізацыямі ў краю. Названая арганізацыя мае быць строга апалітычная і будзе грунтаваць сваё існаваньне на камэрцыйнай базе. У хуткім часе мае вярнуцца на Бацькаўшчыну з Чэхаславацыі каля 10 аграномаў з вышэйшаю асьветаю.

— „Беларускі Радны“ № 1 — хто яго з п. п. Радных дзеля якіх небудзь прычынаў не атрымаў, радакцыя просіць паведаміць і ўказаць сво дакладны адрэс. № 3 „Бел. Раднага“ выйдзе ў наступным тыдню.

Сябраўскія блеты за N N 187, 188 і 189 Рад. Я. Косько, Т. Кандратчык і Д. Судэнка — высланы 2-XII-27 г.

Білет раднага Пракопа Казюковіча Радашкавіцкай гміны ўневажняецца.

## Паштовая скрынка.

*Ф. Бураку*— аб інстр. курсах па лёнаводству. Калі справа стане на рэальны грунт, будзе надрукана ў нашых газэтах. Вы залічаны ў кандыдаты.

*М. Бакачу*— раднаму гм. Молчадзь. Сябрам Вы яшчэ не лічыліся. Другая Вашая заява прынята пад увагу.

*В. Прыбору* - сябру Нясьвізкага Сойміку. — Паведамленьне Вашае атрымалі.

*„Добра-знанаму“* — з Жасьнанскай гміны. Вашая карэспандэнцыя „Нашыя Радныя“ не падходзіць — стары матэрыял. Пішыце нешта навейшае з жыцьця гміны.

*К. Г-лю.*— Атрымалі, частку скарысталі, а „Былі часы, ды папраніліся“ пойдзе ў „Бел. Слове“, ці ў наступн нумару „Бел. Раднага“.

Карэспандэнцыі Вашыя падходзячыя. Прысылайце і надалей.

# Закон

## АБ ПАВЕТОВЫМ САМАЎРАДЗЕ

### Распараджэньне Гэнэральнага Камісара Усходніх Земляў, як устаў аб паветовым самаўрадзе.

(Dz. Urz. Z. W. № 90 poz. 1284).

(*Працяг.*)

### III. Аб межах дзеяльнасьці павятовых самваўрадавых хаўрусаў.

Арт. 10. У межы дзеяльнасьці паветовых самаўрадавых хаўрусаў уваходзяць справы, якія датыкаюць дабрабыту матэр'яльнага, асьветы, культуры і здароўя жыхараў павету, а таксама справы, даручаньня ім уставы і распараджэньні ўрадавых уладаў.

Асабліва ў межы дзеяльнасьці паветовых самаўрадавых хаўрусаў уваходзяць справы:

1) Упраўленьня ўласнай маемасьці і даходамі з яе;

2) Закладваньня і ўтрымліваньня, а такжа направа дарог, мастоў і іншых сродкаў камунікацыі ў павеце;

3) Аховы і разьвіцьця земляробства; зямельныя мэльёрацыі, як: асушка, абвадненьне грунтаў, развядзеньне лесоў, рэгуляцыя рэчак дзеля таго, каб зрабіць іх сплаўнымі, а такжа каб забяспечыць сумежныя маёмкі ад залеваў і т. п. Ахова палёў, лясоў, агародаў, садоў, сенажацьцяў прад аваднямі і шкадлівымі зьвярамі, барацьба з імі і г. д;

4) Падтрымліваньня гандлю, прамысловасьці, рамясла і каапэрацыі; руплівасьці з мэтай падняцьця сельскай гаспадаркі, месцовага гандлю, прамысловасьці і рамеслаў, закладваньне, ўтрымліваньне і падтрыманьне інстытуцыяў таннага крэдыту для жыхароў, закладваньне і падтрыманьне ўсялякага роду каапэратываў, складаў машынаў, угнаеньня т. п.;

5) Апекі над будаўніцтвам і спосабамі забудаваньня павету;

6) Руплівасьці аб адбудове краю;

7) Аховы грамадзкага здароўя; разьвіцьця мэдыцынскай дапамогі для найшырэйшых

масаў жыхарства, закладваньне і ўтрымліваньне шпіталяў, санаторыяў, амбуляторыяў, аптэкаў і т. п., установаў, вышуканьня сродкаў з мэтай палепшаньня санітарнага стану павету, наладжэньне санітарных апек, будова і ўтрымліваньне дэзынфэкцыйных камараў, купаньняў народных і т. п. Апека над магільнікамі.

8) Руплівасьці аб асьвеце: закладваньне і ўтрымліваньне народных і спецыяльных школаў ніжэйшага тыпу, дапамога школам прыватным, арганізацыя прадшкольнага і пазашкольнага выхаваньня; ладжэньня лекцыяў, арганізацыя і ўтрымліваньне бібліатэкаў сталых і аб'ездных, с тулдзяў, закладваньне і дапамога выфдавецтвам;

9) Падняцьце роўня маральнасьці і грамадзкай культуры: барацьба з пьянствам і распустай, закладваньне народных дамоў, тэатраў і т. п.

10) Барацьба з стыхійнымі зьявішчамі (пажары, навадненьні і г д.), а такжа закладваньне і дапамога для наладжэньня ахоўных уладжаньняў.

11) Вэтэрынарыі: барацьба з заразай ў коней і жывёлы, кантроль іх здароўя, прыняцьце мераў у мэтах разьвіцьця і падняцьця гадоўлі коней і жывёлы, закладваньне і ўтрымліваньне, а такжа кантроль бойняў і г. д.

12) Апекі грамадзкай: апекі над сіротамі, беднымі, безнадзейна хворымі псыхічна; закладваньне і ўтрымліваньне належных апекунчых установаў і г. д.

13) Ахову нрацы: закладваньне і ўтрымліваньне бюро пасрэдніцтва працы; закладваньне дамоў для рабочых, ладжэньне публічных работ і іншых варстатаў працы і г. д.

14) Руплівасьць аб дастаўленьні люднасьці павету апровізацыі, а такжа забяспячэньне гэтай люднасьці рэчаў першае патрэбы;

15) Арганізацыі юрыдычнай дапамогі люднасьці; закладваньне і ўтрымліваньне бюро юрыдычных парадаў.

16) Выдаваньня канцэсыяў на прадпрыемствы агульнага карыстаньня ў выпадках, калі выдача гэтых канцэсыяў не залежыць ад органаў урадовых. Выжэй забазначаныя заданьні, з выняткам акрэсьленага ў п 1, паветовыя самаўрадовыя хаўрусы выконваюць самастойна, альба тады, калі яны ня могуць быць выкананы паасобнымі гмінамі, альбо ўрэшце—праз удзяленьне фізычным ці юрыдычным асобам — грашовых дапамогаў.

Арт. II. Паветовыя самаўрадавыя хаўрусы маюць права прадстаўляць Ураду Цыв. Усх. Зем. (Міністру Унутр. Справаў) прапанысі ў справе загадаў, якія ўваходзяць у межы дзеяльнасьці гэтых Самаўрадавых хаўрусаў, а для якіх патрэбуецца шлях уставадаўчы.

(*Працяг будзе.*)


## Ад Рэдакцыі „Беларускага Раднага".

Рэдакцыя журналу прапануе ўсім сябрам Беларускага Камітэту па справам Самаўрадаў прысылаць артыкулы і карэспандэнцыі з самаўрадавага жыцьця. За зьмешчаны ў журнале матэр'ял будзе выплачвацца ганарар. Нязьмешчаны матэр'ял будзе хавацца пры Рэдакцыі і па жаданьню аўтараў зварачвацца. Абвесткі сваіх сябраў адміністрацыя газэты зьмяшчае бязплатна. У ва ўсіх патрэбах Рэдакцыя „Бел. Раднага" ідзе на спатканьне сябрам камітэту па справам Самаўрадаў.

Адрэс: Redakcja „Беларускі Радны". ***Wilno, ul. Zawalna, 6 — 4.***

Рэдакцыя і адміністрацыя адчыняны кожны дзень, апрача сьвятачных і нядзельных, ад 11 рана да 3 гадз. дня.

Пры Беларускім Камітэце па справам Самаўрадаў арганізаваўся
**юрыдычны аддзел**
пад кіраўніцтвам дасьведчанага юрысты, які дае сябрам камітэту бязплатныя юрыдычныя парады па ўсім справам. Безпасрэдня ці пісьменна звяртацца да „Беларускага Раднага", **Wilno, ul. Zawalna, 6 — 4.**

## Беларуская Кнігарня
**у НАВАГРАДКУ**
прадае ў сябе і высылае поштаю падручнікі для пачатковых і сярэдніх школ, кніжкі рознага зьместу і пісьменныя прылады.
З заказамі зварочвацца:
г. Наваградак, Замковая вул. 7.



Выдавец — Рэдактар Я. ЯРОШ. Кіраўнік рэдакцыі Г. КАНАПАЦКІ.
Рэдакцыйная колегія: Б. Друцкі-Падбярэскі, Я. Шыбка і Г. Канапацкі.
Druk. J. Bajewskiego w Wilnie, ul. Mostowa 9.